Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

**Вільня, 18 лістапада 1933.**

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

№ 23.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12—2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

## Выбары ў самаурады.

Як паведамілі мяйсцовыя газэты, 10 лістапада распачаліся на ўсім абшары віленскага ваяводзтва выбары ў грамадзкія рады. А вось—з Лідчыны ідуць весткі аб тым, што там яшчэ раней пасьпелі адбыцца ня толькі выбары радных, але і солтысаў грамад.

Такую запраўды-ж нячуваную і неспадзяваную хуткасьць у назначэньні выбараў, калі толькі 28 кастрычніка было апублікавана выканаўчае распараджэньне п. міністра ўнутр. спраў аб парадку выбараў, трэба прызнаць—бязумоўна шкоднай. За такі кароткі час вясковае насяленьне Польшчы ня толькі ня здолела падрыхтавацца да выбарнае акцыі, але ня мела магчымасьці навет пазнаёміцца з абвешчаным у распараджэньні п. Міністра парадкам выбараў. У яшчэ горшым палажэньні паставіла такая надзвычайная хуткасьць выбараў насяленьне беларускае вёскі, якая слушна спадзявалася, што атрымае ад сваіх кіруючых арганізацыяў прынамся высьвятленьне распараджэньня аб парадку выбараў — у беларускай мове. Бо-ж права беларускага насяленьня на гэта не падлягае ніякаму сумліву: калі папярэдня распараджэньне п. міністра адкідае абавязак ведаць польскую мову ня толькі на пісьме, але і ў слове, для радных і солтысаў грамады, дык ясна, што п. п. старосты ня могуць вымагаць веданьня польскае мовы ад усей масы вясковых выбаршчыкаў. А гэта значыць, што беларускае насяленьне нашае вёскі мела бясспрэчнае права мець усе выбарныя друкі, а перад усім зьмест самага закону і выканаўчага да яго распараджэньня, у беларускай мове. Мы ня маем пакуль-што вестак аб тым, каб дзеля рэалізацыі гэтага права было нешта зроблена на мясцох тымі чыньнікамі—урадавымі і грамадзкімі, якія з такім нячуваным пасьпехам — бяз усякіх канкурэнтаў—праводзілі выбарную акцыю. Але мы павінны сцьвярдзіць, што ўсе без выняткy беларускія грамадзкія арганізацыі, якія мелі добрую волю і нацыянальны абавязак дапамагчы беларускаму выбаршчыку ў сьвядамым выкананьні гэткае важнае грамадзкае чыннасьці, да якой яго заклікае закон, былі на дзеле блізу цалком пазбаўлены гэтае магчымасьці.

У рэзультаце гэткае неспадзяванае хуткасьці выбараў перад галасаваўшымі масамі беларускіх выбаршчыкаў апынулася адна толькі польская арганізацыя, якая найбліжэй супрацоўнічае з урадам: гэтак-званы Беспартыйны Блёк. Таму—ня дзіва, што яна блізу цалком і ўсюды магла правясьці свае кандыдацкія сьпіскі—пры поўнай адсутнасьці канкурэнцыі з боку ўсялякіх іншых груп і арганізацыяў. На гэтай падставе блізка ўсюды сьпіскі ўрадавага блёку праходзілі навет **без галасаваньня**, як адзіныя заяўленыя выбаршчыкамі. Прыкладам — з 1698 грамадаў Беластоцкага ваяводзтва ў 1600 прайшлі гэтак кандыдаты сьпіску Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам...

Паведамляючы аб гэтых удачах ББ, „Кур. Віл." піша: „Ад кандыдата на раднага вымагаецца веданьне патрэбаў і балячак яго ваколіцы.. і дабра краю. У грамадзкія рады ўвойдуць таму найлепшыя людзі спасярод (мясцовых) грамадзкіх і гаспадарчых дзеячоў...", якія будуць шчыра выкарыстываць „шырокія магчымасьці ажыцьцяўленьня інтэрэсаў і патрэбаў мяйсцовага насяленьня"— „бяз розьніцы нацыянальнасьці і веравызнаньня"...

Ведама, такая ўдача на выбарах, хоць і здабыта дзякуючы выключным абставінам, абавязывае пераможцаў. Выкарыстаўшы так поўна усе выгады свайго найбліжэйшага супрацоўніцтва з урадам, арганізацыя ББ гэтым самым узяла на сябе і ўсю поўню адказнасьці за тое, што тыя лёзунгі, пад якімі, як гэта заяўляе „Кур. Віл.", адбываліся выбары ў нашыя самаўрады, будуць поўнасьцю праведзены ў жыцьцё. А гэтым самым на Беспартыйным Блёку ляжыць і ўся адказнасьць за тое, каб і нацыянальныя патрэбы, і ўсе культурна-асьветныя справы беларускага народнага масыву нашага краю, аб якіх абязан у першую чаргу рупіцца сама ўрад, ня былі-б закінены ў кут, як дагэтуль... Бліжэйшы ўжо час пакажэ, як будуць выглядаць на дзеле прыгожыя словы.

# Як выбіраць солтысаў і падсолтысаў.

Дзеля таго, што выбары ў грамадзкія рады адбыліся ўжо блізу ўсюды на абшарах з масовым беларускім насяленьнем, не даем дакладнага выкладу аб парадку гэтых выбараў паводле новага закону.

Але, зразумела-ж — на выбарах радных грамадаў выбарная акцыя ў самаўрады не канчаецца. Гэта толькі — першы этап выбараў.

Скажам некалькі слоў аб яго значэньні.

Грамада — гэта найшырэйшы, найбліжэйшы да народу фундамэнт усяго шматпавярховага гмаху тэрыторыяльнага (земскага) самаўраду ў Польшчы, хаця закон у груньце не прызнае грамады „самаўрадавым саюзам“ у поўным значэньні слова: не дае ёй самастойнае сілы публічна-праўнай адзінкі, але падпарадкавуе грамаду ў гэтым сеньсе гміннаму самаўраду, якога грамада зьяўляецца спаўняючым органам.

Закон пакідае грамадзе, аднак, усю сілу цывільна-праўнай, гаспадарча-самаўрадуючай адзінкі, як **уласьніка і гаспадара грамадзкай маемасьці** на яе абшары.

Такім чынам — закон ня лічыць грамаду асобным паверхам у самаўрадавым гмаху, які складаецца толькі з 3-х паверхаў: гміннага самаўраду, павятовага і ваяводзкага. Але, ня гледзячы на гэта, выбары ў грамадзкія рады зьяўляюцца ня толькі першым, але хіба-ж і **найважнейшым актам** у ва ўсей выбарна-творчай будове самаўрадавага гмаху. А гэта — таму, што выбары ў грамадзкія рады робяць **першы адбор людзей**, ствараюць тую **пачатную армію дзеячоў мясцовага самаўраду**, з якой шляхам далейшых выбараў **маюць вылучна стварацца пастанаўляючыя органы — рады — усіх вышэйшых паверхаў гэтага гмаху**. Радныя ўсіх грамадаў выбіраюць спаміж сябе **гмінную раду**; радныя ўсіх гмінаў таксама спаміж сябе выбіраюць **павятовы соймік**, з сяброў якога ствараецца **ваяводзкая рада**.

Вось чаму трэба было з асаблівай увагай аднесьціся да гэтых асноўных выбараў — у грамадзкія рады.

Нажаль, як мы ўжо сказалі, нячуваная хуткасьць у правядзеньні гэтых выбараў пазбавіла нас магчымасьці прыняць належнае ўчасьце ў выбарах гэтых пастанаўляючых органаў грамады.

Цяпер на чарзе дня стаяць выбары **выканаўчых яе органаў: солтысаў і падсолтысаў.**

Ніжэй мы даем нашым чытачом галоўныя правілы аб парадку выбару гэтых **загадчыкаў грамады** — на падставе выканаўчых распараджэньняў міністра ўнутр. спраў 17. X. 1933 г. №№ 605 і 606.

## Агульныя правілы аб выбарах солтыса.

Мы ўжо падалі да ведама нашых чытачоў у папярэднім нумары „Р. Кр.“ аб тым, што распараджэньнем № 605 п. міністар скасаваў (на 5 гадоў) абавязак веданьня польскае мовы ня толькі на пісьме, але і ў слове, для кандыдатаў на солтыса і падсолтыса — блізу на ўсіх абшарах нашага краю з масовым беларускім насяленьнем. Такім чынам, кожны выбаршчык-беларус, жыхар (прынамся ад году) сваей грамады, які мае ня менш 30 гадоў у дзень назначэньня выбараў дый ня страціў па судоваму прысуду правоў выбаршчыка ў Сойм, можа быць выбраным за солтыса ці падсолтыса. Паводле закону солтысам, як і падсолтысам, можа быць выбрана навет жанчына.

Солтыса і падсолтыса выбіраюць — на тры гады — або радныя грамады (не абавязкова спасярод сябе), або — грамадзкія сабраньні — у тых грамадах, дзе няма радаў. Грамады, дзе жыхароў менш за 200, звычайна не выбіраюць рады, як сталага органу, і замест рады пастанаўляючым органам у іх зьяўляецца грамадзкае сабраньне.

Выбары солтыса назначае староста, аб чым паведамляе выбаршчыкаў **за 3 дні** да дня выбараў, калі выбары адбываюцца ў радзе грамады, і — **за 6 дзён**, калі солтыса выбірае грамадзкае сабраньне.

Выбар солтыса і падсолтыса адбываецца адначасна — у адным галасаваньні. Перад галасаваньнем выстаўляюцца кандыдаты. Выбраным за солтыса лічыцца той, хто атрымаў найбольшую лічбу галасоў; наступны па колькасьці галасоў кандыдат лічыцца выбраным за падсолтыса.

У разе роўнасьці галасоў справу вырашае жараб'ёўка.

Калі запрапанаваны толькі адзін кандыдат, тады ён — без галасаваньня — лічыцца выбраным у солтысы, а пасьля таго выбіраецца галасаваньнем падсолтыс.

Калі выстаўлены толькі 2 кандыдаты, тады той, што стаіць на сьпіску, або ў вуснай заяве, **першым**, лічыцца выбраным у солтысы, другі — у падсолтысы.

Кожны выбаршчык галасуе толькі за **аднаго кандыдата**. Галасаваньне адбываецца — або яўна, адкрыта, або тайна. Заяву аб тайным галасаваньні трэба зрабіць або пісьменна, або вусна, але мае сілу яна толькі тады, калі яе падтрымае ня менш, як чацьвертая частка прысутных выбаршчыкаў.

Тайнае галасаваньне адбываецца пры помачы картак. Карткі гэтыя павінны быць белыя. Пісаць трэба на іх толькі імя, імя бацькі і прозьвішча кандыдата, пры гэтым, як сказана ўжо, **толькі аднаго**.

Прызнаюцца няважнымі карткі — нябелыя, пустыя, зьмяшчаючыя больш, як аднаго кандыдата, карткі з якімі небудзь дапіскамі, або нячытэльна напісаныя.

Распараджэньне ня кажа нічога аб тым, што імёны і прозьвішчы кандыдатаў можна пісаць па-беларуску, як ня кажа і аб тым, што трэба канешна пісаць іх па-польску. Але — і так зван. „языковыя законы“, а асабліва-ж спэцыяльнае скасаваньне

п. міністрам—у зьвязку з гэтымі выбарамі—абавязку веданьня польскае мовы для кандыдатаў у солтысы, каторы тым больш ня можа мець сілы для звычайных выбаршчыкаў,—усё гэта кажа за тое, што пісаць кандыдатаў, як і наагул весьці ўсю выбарную акцыю—на пісьме ці ў слове — выбаршчыкі-беларусы маюць права па-беларуску.

У дзень галасаваньня ніякая агітацыя, прынамся на адлежнасьці бліжэй, як на 100 мэтраў ад гмаху выбараў, не дазваляецца.

### Выбар солтыса і падсолтыса ў грамадзкіх радах.

Выбары солтыса ў грамадзкай радзе вядзе назначаны старостай спасярод радных грамады старшыня выбарнага сабраньня. Як сказана, кожны радны павінен за 3 дні да дня выбараў атрымаць абвяшчэньне — з паказаньнем мэты, мейсца, дня і гадзіны выбарнага сабраньня.

Выбары могуць адбыцца толькі тады, калі на сабраньні ёсьць прысутных ня менш паловы ўсіх радных грамады і яшчэ адзін.

Сцьвярдзіўшы гэты „кворум“ сабраньня, старшыня абавязаны прачытаць голасна ўсім выбарчыкам адносныя §§ гэтага міністэрскага Распараджэньня (№ 606). Але—у якой мове?

Дык-жа-ж ізноў-дзіўна, чаму гэта ў „Дзеньніку Устав“ № 83 побач надрукаваны два Распараджэньні п. міністра ўн. спраў, з якіх першае, № 605, касуе на 5 год абавязак веданьня польскай мовы ня толькі на пісьме, але і ў слове, для ўсіх радных-беларусаў пры іх выбіраньні ў радныя, а другое—№ 606—як быццам трэбуе ад іх, зараз-жа пасьля таго, як яны ўжо выбраны ў рады, абавязковага разуменьня польскае мовы, у якой быццам мае старшыня выбарнага сабраньня чытаць выбіраючым солтыса радным гэтыя §§ распараджэньня п. міністра!!!

Ясна, што нешта тут—ня так. Ясна, што мяйсцовыя ўлады павінны былі паправіць гэтую, лёгка зразумелую ў далёкай Варшаве, абмылку цэнтральных уладаў, парупіўшыся аб тым, каб згары, да выбараў, зрабіць пераклад галоўных §§ Распараджэньня п. міністра на беларускую мову... Ці гэта зроблена?

Прапанаваньне кандыдатаў адбываецца—або пісьменна, або вусна — з запісаньнем у пратакол. Кандыдатаў можна выставіць **ня больш 2**, а падтрымаць іх кандыдатуру павінны **ня менш 3 выбаршчыкаў.** Падаючы кандыдатаў, трэба, апроч іх імёнаў, імёнаў бацькоў і прозьвішчаў, паказаць і мейсца іх жыцьця (адрэс).

### Выбар солтыса і падсолтыса ў грамадзкім сабраньні.

У грамадах малых, дзе грамадзкіх радаў няма, выбары солтысаў адбываюцца ў **грамадзкім сабраньні.**

Выбары праводзіць выбарная камісія, старшыню якой назначае староста, а старшыня ўжо сам дабірае сабе свайго заступніка і 2 сяброў — спасярод выбаршчыкаў грамады.

Зараз-жа пасьля назначэньня выбараў старостай солтыс грамады абавязаны падаць да агульнага ведама (афішай) **абвяшчэньне** аб выбарах, у якім павінны быць паказаны склад выбарнай камісіі, мейсца, дні і гадзіны выложэньня да агульнага агляду сьпіску ўсіх выбаршчыкаў грамады, тэрмін складаньня рэклямацыяў (скаргаў на памылкі ў сьпіску гэтым), § 19 Распараджэньня міністра (аб парадку агляду сьпіскаў і скаргаў на памылкі) і мейсца, дзень і гадзіну галасаваньня.

Назаўтра па абвяшчэньні аб выбарах сьпіскі выбаршчыкаў павінны быць—на тры дні — выстаўлены ў гміне — да агульнага агляду.

Перад самым галасаваньнем старшыня выб. камісіі таксама абавязаны прачытаць усе адносныя стацьці закону так, трэба думаць, каб зразумелі ўсе выбаршчыкі, а значыць і выбаршчыкі-беларусы, якіх распараджэньне міністра № 605 звальняе ад абавязку ведаць польскую мову на пісьме і ў слове!.

Пасьля гэтага выбаршчыкі высоўваюць кандыдатаў. Кожная група з 10 выбаршчыкаў можа высунуць **свайго кандыдата.** Аб гэтым група можа падаць пісьменна або вусна заяву старшыні — для запісаньня у пратакол.

Пасьля таго, як старшыня зложа сьпісак усіх заяўленых кандыдатаў і выложыць яго да угульнага агляду (для праверкі), наступае самае галасаваньне.

На выбары трэба ўзяць з сабой той ці іншы дакумэнт, сцьвярджаючы „тожсамасьць“ выбаршчыка. Тожсамасьць, замест дакумэнту, могуць пацьвярдзіць 2 сьведкі, ведамыя асабіста Камісіі.

## Запытаньне да „Kur. Wil.“.

**У апошніх нумарох часопісу „Kurjer Wileński“, які гуртуе супрацоўнічаючых з урадам краёвых польскіх дэмакратаў, зьмешчаны быў цэлы рад стацей у справе навучаньня дзяцей у школах на беларускіх землях польскае мовы і літэратуры. Ува ўсіх гэтых стацьцях чырвонай ніткай праходзіць думка, што дзяржаўныя школы ў нашым краю маюць за галоўнае сваё заданьне чым хутчэй і глыбей польшчыць сваіх вучняў. Аўтары стацей гэных і клапоцяцца аб тым, як дасягнуць гэтае мэты і прышчапіць польшчыну беларускім дзецям.**

**У апошняй стацьці з гэтага цыклю йдзе гутарка аб польскіх школьных падручніках для беларускіх дзяцей, якія, ня маючы школ у роднай мове, прымушаны вучыцца ў польскіх урадавых школах згодна з законам аб школьным прымусе. Тут аўтар (—ці**

аўтарка?), укрыты пад крыптонімам „War“, зварачае ўвагу на тое, што польскія падручнікі для школ павінны інформаваць вучняў і аб „культурнай, гаспадарчай і палітычнай дзейльнасьці іншых народаў“ у „нашым рэгіёне“ (—наш край, бачыце, ня мае ўжо свайго іменьня!). Думка, пэўне ж, магла б быць добрай, калі-б ня тая мэта, якую аўтар стаўляе гэтаму „інформаваньню“.

А мэта—вось якая: „чаму аб Францішку Скарыне, гадунцу Кракаўскае Акадэміі, насяленьне мае даведывацца ад варожых нашай дзяржаве дзеячоў, каторыя асьвятляюць гэтыя справы некарысна для нас“ (для палякоў)?

У гэтых словах — цэлая дэклярацыя, якая на страніцах дэмакратычнага польскага органу зьяўляецца зусім новай. Тут і сцьвярджэньне таго, што навуковая праўда аб мінуўшчыне Беларусі і беларускага народу, якую выяўляюць сьвету беларусы, „некарысна“ для палякоў, і яе трэба прадставіць інакш—карысна для Польшчы; і — абвяшчэньне ўсіх беларускіх культурнікаў і навуковых працаўнікоў ворагамі Польскае дзяржавы...

Ня будзем полемізаваць з аўтарамі гэтых статей, бо гэта ня мела-б ніякае мэты. Зварачаемся толькі да рэдакцыі „Kur. Wil.“ з запытаньнем:

— Ці гэта ёсьць недагляд рэдакцыі? Ці можа — залішне ўжо ўпрошчаныя пагляды ніжэйшае „крэсовае“ адміністрацыі, якая кожную беларускую культурную акцыю лічыць „антыпаньствовай“, знайшлі ўжо водгук і сярод польскіх дэмакратаў?

Стаўляем гэтае пытаньне затым, што дагэтуль беларускае грамадзянства самых рознародных кірункаў прывыкла лічыць „Kur. Wil.“ прыхільным да беларускае справы часопісам, а кіраўнікоў яго мы неаднакротна бачылі на розных беларускіх нацыянальных урачыстасьцях, на якія іх запрашала навет „найбольш опозыцыйная“ беларуская хадэцыя.

# Жыцьцё Пружаны.

(Дакančэньне).

Вайною Пружана ня зьнішчана, але за кіраваньня сучаснага магістрату вельмі запушчана. Есьць вуліцы, якія ад вайны не перабрукаваліся, тратуары тое самае. Магілкі праваслаўныя, якія ўжо расейскі ўрад хацеў закрыць. бо перапоўнены, знаходзяцца ў стане немагчымым з гледзішча вымогаў гігіены; а тым часам навакол жывуць людзі. А ўжо калі выйшаў закон аб магілках?!

Староства гэтым таксама ня цікавіцца. Ды гдзе-ж там было гэтым цікавіцца быламу старасьце п. Бухоўскаму, які за сваю распусту і „чыны“ некалькі месяцаў таму назад быў зусім звольнены з пасады і цяпер перабраўся недалёка на вёску да мужыкоў, якіх за беларускасьць раней гэтак ненавідзеў і з цынізмам зьдзекаваўся. Ці цяпер што зьменіцца на лепшае пры новым старасьце, ня ведама. Дагэтуль, каб што зьмянілася на лепшае. дык ня чуваць.

Школ беларускіх у Пружане няма. Моладзь змушана ехаць за 332 кілёмэтры, каб вучыцца ў роднай мове у Вільні. А трэба адзначыць, што напр. лічба вучняў з Пружаншчыны ў Віл. Беларускай Гімназіі вялікая. У Пружанскую польскую вучыцельскую сэмінарыю або гімназію беларусам папасьці трудна. Характэрна, што ў сэмінарыі ня вучаць ані беларускае, ані украінскае мовы, уважаючы мяйсцовасьць за пераходную. Сапраўды-ж так ня ёсьць. Пружаншчына ўжо даўно залічана вучонымі да этнаграфічнае Беларусі. Навет Е. Карскі і той перад сьмерцяй паправіў на карысьць беларусаў свае нявыразныя дагэтуль пагляды на Пружану. Цікава й тое, што Пружаншчына, ня гледзячы на такую вялікую адлегласьць ад Вільні, горнецца да віленскага цэнтру.

Беларускія газэты па-за Пружанай — рэдкасьць. Шмат хто ў гэтым дакладае стараньня, каб беларускае друкаванае слова тут не пашыралася. Шырацца затое газэты украінскія і расейскія, бо польскіх ня чытаюць. У павеце да апошняга часу існавала да дзесятку гурткоў Т-ва Беларуск. Школы (в. Шэні, Батракі і г. д.), якія мелі свае бібліятэкі, чытальні, ладзілі прадстаўленьні, мелі свае народныя домы і вялі беларускую культурную працу. Але ўся больш-менш актыўная моладзь паралiжавалася і паралiжуецца старастай. Паліцыя ўжо ў гэтым годзе дапяла свае мэты. Усе гурткі зьліквідаваны, а маемасьць, купленая за грошы са складак, як радыё і г. д., уся сканфіскавана.

Цяжка працаваць на ніве беларускага адраджэньня ў тутэйшых варунках, але цікава і характэрна: няма пэсымізму. Есьць якраз запал і вера ў лепшую будучыню і то ня ў горадзе, а на вёсцы, дзе на падаткі селянін прадае пуд жыта за 2 злот. і менш.

Як у Пружане, так і ў павеце абсолютная большасьць — праваслаўныя беларусы. Аднак, папы чуюцца, як у „Матушке России“. Гавораць казаньні такой спэцыфічнай расейска-славяноска-царкоўнай мовай, што сяляне абсолютна нічога не разумеюць.

Цяпер (з восені гэтага году) ў школах рэлігія праваслаўная выкладаецца толькі папольску (выкл. п. Імшэньнік), дый і казаньні ў цэрквах будуць, здаецца, гаварыць таксама папольску.

Ксяндзы, дык тыя з беларускіх каталікоў Пружаншчыны робяць сабе штучную базу „polskości“. Некалькі гадоў тут быў добры і падатлівы грунт для працы сярод каталікоў-беларусаў, але, ведама, яе трэба вясьці беларускім ксяндзом... На жаль, заняўшыся нейкай асаблівай „палітыкай“, яны гэту магчымасьць змарнавалі.

Цяпер ёсьць у Пружане ксёндз паляк, выпушчаны бальшавікамі з Салаўкоў. Ксёндз —на рэдкасьць! Пабірае і вымагае за адпраў-

леньне хрысьціянскіх трэбаў вялізарныя грошы і кідаецца з кулаком на бедных сялян і навет выганяе з касьцёла. І, як кажа адзін зьняважаны праз ксяндза пабожны грам. В. з Пружаны, робіць гэтак з людзёў „безбожнікаў". Затое баптысты працу сваю вядуць вельмі ўдала і спрытна. Ахвотнікаў да новае веры прыбывае што раз больш. Злыя языкі кажуць: падкупляюць баптысты далярамі... Але мусіць больш спрытным красамоўствам. Паслугоўваюцца ізноў-жа мовай расейскай. На пытаньне: а ня чытаеце і ня тлумачыце Эвангельле пабеларуску? — некаторыя з усьмехам адказваюць: „напэўна забаран'ла-б паліцыя, бо ўважала-б нас за камуністаў". У паліцыі тут мала разрожніваюцца назовы: камуніст і беларус...

Вось жменя пружанскіх асаблівасьцяў.

М. Дубоўня.

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб вапнаваньні глебы.

У гаспадарчай практыцы можна знайсьці шмат прыкладаў, калі на палёх, пры дастатачным гнаеньні хлеўным гноем, атрымліваліся слабыя ўраджаі, асабліва матыльковых расьлінаў. Гэтае зьявішча рабіла шмат клопату руплівым гаспадаром. Прабаваліся розныя спосабы абробкі глебы, дадавалася таксама і штучных гнаёў, як супэрфасфат, калійныя солі, салетра, але ўсё гэта нічога не памагала, а часамі навет заўважвалася і зьніжка ўраджаю. І вось, толькі пры ўнясеньні ў глебу адпаведнай колькасьці вапны атрымліваліся вялікія ўраджаі. У большасьці выпадкаў гаспадары-практыкі запатрабаваньне свае глебы на вапну выкрывалі зусім прыпадкова. Былі такія здарэньні, калі гаспадар, выпрабаваўшы ўсе знаныя яму спосабы палепшаньня грунту і не дабіўшыся ніякіх дадатніх вынікаў, нарэшце махаў рукою, лічучы справу цалкам безнадзейнаю. І вось, толькі прыпадкова, вывезшы на поле які-колечы хлам, у якім знаходзілася вапна, як прыкладам асыпаўшыся тынк, заўважваў, што на гэтым мейсцы расьлі лепей усе гаспадарчыя расьліны і асабліва матыльковыя. Падобныя прыклады наводзілі гаспадароў на думку шырокага застасаваньня вапны на сваіх палёх.

Грунты, аб якіх вышэй ішла рэч, былі бязумоўна кіслымі, а ўсе кіслыя грунты ў вялікай колькасьці патрабуюць вапны. Апрача таго, што вапна 1) **нішчыць шкодную кваснасьць глебы,** яна яшчэ добра ўплывае і на будову яе, так, што 2) **глебы зьвязныя, глінистыя становяцца пульхнейшымі** і гэтым твораць спрыяючыя ўмовы для росту культурных расьлінаў. 3) **Шмат пажыўных складнікоў,** знаходзячыхся ў глебе ў цяжка распушчальным стане, **даданьнем вапны становяцца лёгка распушчальнымі,** а знача і приступнымі для расьліны. Павялічэньне ўрадлівасьці глебы коштам урухомленьня яе запасаў пры дапамозе вапны настолькі вялікае, што аб гэтым навет злажылася наступная прыказка: „вапна, узбагачаючы бацькоў, руйнуе дзяцей". Аднак гэта ня зусім так. Прыказка гэтая будзе праўдзівай толькі пры неразмерным і няўмелым карыстаньні з вапны. 4) **Вапна прысьпяшае расклад арганічных матэрыялаў і спрыяе разьвіцьцю карысных бактэрыяў.** 5) Вапна карысна для пяшчаных глебаў і тым, што, **дзякуючы ёй, лепей затрымліваюцца пажыўныя складнікі ў ворніцы.** 6) Апрача ўсяго вышэйсказанага, **вапна сама па сабе зьяўляецца кормам для расьліны,** хаця, праўда, у невялікіх колькасьцях. Найболей вапны із зямлі бяруць матыльковыя расьліны.

Даведацца аб тым, ці глебе бракуе вапны, ня так трудна. Для гэтае мэты ўжываецца слабая рашчына сярчанага квасу, або моцны воцат. Калі пробку зямлі, багатую вапнай, паліць вышэйуспомненымі хімікаліямі, то із зямлі будуць вылучацца бульбаткі газу і будзе чутно ў большай ці меншай меры шыпеньне. Але патрэбу глебы на вапну, апрача вышэйпаданага спосабу, можна пазнаць па дзіка растучай на ёй расьліннасьці. Там, дзе расьце сасонка, браткі, падбел, шчавель і іншыя кіслыя травы, можна быць пэўным, што глебе бракуе вапны; і наадварот: дзе добра растуць розныя канюшыны і гарошкі,—там яе дастатак.

Для вапнаваньня палёў лепей за ўсё ўжыць паленае вапны, і найадпаведнейшаю парою для вапнаваньня трэба лічыць восень. Што-ж тычыцца расьліны, пад якую найкарысьней вапнаваць, то гэта будзе канюшына. Яна вельмі добра рэагуе на вапну.

Вывозіць нягашаную вапну на поле трэба ў часе сухое пагоды і рассыпаць яе па полі ў невялікіх кучках, якія наўкола трэба абсыпаць зямлёю. Пасьля якіх-небудзь пары тыдняў вапна ў кучках згасіцца, і тагды трэба яе раўнамерна раскідаць па полі. Раскіданая вапна пасьля плытка прыворваецца, або мяшаецца з зямлёю пры дапамозе культыватара. Паленае вапны даецца на гэктар на глебах пяшчаных каля 5-10 цэнтнараў (30-60 пудоў), а на зьвязных глебох каля 10-20 цэнтнараў, паўтараючы вапнаваньне праз кожныя 6 гадоў.

Няпаленая вапна ўжываецца радзей, дзее яна павольна, і даюць яе толькі на глебы лёгкія. Яе можна рассяваць і перад самым пасевам.

Для вапнаваньня палёў ужываюць часта і мергель, калі дастаўка яго ня дорага каштуе. Мергель мае ў сабе, апрача вапны, яшчэ гліну і дзеля гэтага вельмі карысным бывае для пяшчаных грунтоў.

Даўней дадавалася вапна, асабліва пад канюшыну, у пастаці гіпсу, але ўплыў яго слабейшы за ўплыў паленае вапны, а да таго яшчэ глебы гіпс не адквашвае, а яшчэ болей павялічвае кісласьць. Цяпер гіпсу амаль што зусім ня ўжываюць. З. К.

**Пашырайце нашу газэту!**

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Узнаўленьне „Жаноцкае Справы".** Часопіс Аб'яднаньня Белар. Жанчын імя „Цёткі", які гэтак добра сябе зарэкамэндаваў у мінулыя гады, ды нейк прыпыніўся, мае быць — паводле атрыманае намі інфармацыі—ўзноўлены ад Новага году.

Шчыра жадаем, каб узноўленая „Жаноцкая Справа" крэпка станула на ногі і ўжо ня спынялася!

**Славянскі канцэрт.** Канцэрт, які ладзіць Бацькоўскі Камітэт Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Словацкага ў Вільні—на карысьць незаможных вучняў беларускіх, адбудзецца **не 19 лістапада**, як было праектавана і абвешчана ў нас, а **10-га сьнежня**.

Апрача ведамага ўжо шырокай публіцы хору пад кіраўніцтвам грам. **Шырмы** (сябры Бацькоўскага Камітэту), у Канцэрце прыме ўчасьце аркестр балалаечнікаў гр.Траяноўскага з солістам гр. **Фёдаравым**,

Беларускае грамадзянства павінна горача адгукнуцца і падтрымаць гэтае пачынаньне Бацькоўскага Камітэту, як з увагі на мэту яго, так і на вялікую мастацкую вартасьць канцэрту,

**Прывітаньне Ф. Аляхновічу — з Амэрыкі.** Грам. Аляхновіч атрымаў гарачае прывітаньне з прычыны свайго павароту ў Вільню ад б. старшыні Народнага Сэкрэтарыяту (Ураду) Беларускае Народнае Рэспублікі грам. Язэпа Варонкі з Чыкаго. Як бачым, эмігранты-беларусы ў Злучаных Штатах пільна сочаць за беларускім жыцьцём у родным Краю і горача адгукаюцца на праявы яго.

## На правінцыі.

**І ў нас ня лепей!** (В. Макаршчына, Пастаўскага пав.). Трудныя часы. Усюды „крызіс". Наша вёска, як і ўсе іншыя, церпіць ад яго ўдары. Зямлі мала, дый тая пяшчаная. Хацелі нашыя сяляне прыкупіць, але купля не ўдалася: многа грошы кінулі, як у ваду, а зямля прапала. Заработкаў няма, а калі хто якую дзе залатоўку і зарабіў, дык трэба з паўсотні разоў хадзіць па яе ды па два, а то і больш гадоў чакаць на яе. Нярэдка бывае, што й зусім не дачакаешся. Вось прыклад: з нашае вёскі трое сялян згадзіліся ў асадніка Рудзіньскага рабіць папар. Працавалі самі і коні ўсё лета, а ўжо тры гады мінулі, як чакаюць на заплату. Ня лепш і ў іншых мяйсцох.—Няма ні культуры, ні братняе згоды. Шкоды на кожным кроку; кожны год амаль не палова пасеваў падае ахвярай капытоў скаціны. Спасярод ста пяцьдзесяцёх душ нашае вёскі дзесятку не налічыш такіх, каторыя чытаюць ды цікавяцца кнігамі й газэтамі. — Схамянецеся людзі! Падумайце, да чаго пры гэтых варунках вы дойдзеце! С.

## У Латвіі.

**Юбілей першае беларускае школы ў Рызе.** Сёлета мінула дзесяць гадоў ад закладзінаў у сталіцы Латвіі першае беларускае народнае школы (— цяпер у Рызе ёсьць тры бел. нар. школы, беларуская гімназія, белар. вучыцельскія курсы, некалькі дзіцячых садкоў, вячэрняя школа для дарослых). Школа, якая першая пачала вучыць беларускіх дзяцей у роднай мове, была адчынена ў 1923 годзе на Маскоўскім форштаце, дзе працуе і цяпер. У школе 7 клясаў, у якіх вучыцца 215 дзяцей. Выкладаюць 10 вучыцялёў пад кіраўніцтвам заслужанага беларускага пэдагога гр. С. Сіцько.

Школе-юбіляру, яе тварцом і працаўніком шлем праз газэту шчырае вітаньне згуртаваных у ТБА беларускіх культурна-асьветных працаўнікоў Заходняе Беларусі.

**Сярод беларускіх вучыцялёў.** 30 верасьня адбыўся надзвычайны агульны сход Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі, пасьвячоны справе праекту новага закону аб школьніцтве, проці каторага выступіла ў першы чарод вучыцельства латышскіх школ. Беларускія вучыцялі пастанавілі падтрымаць дамаганьні таварышоў-латышоў, просячы адначасна Усеялатвійскі Вучыцельскі Саюз, каб ён узяў на сябе і абарону школ меншасьцяў, у тым ліку — беларускіх.

**У Беларускім Навукова-Краязнаўчым Т-ве** ў Латвіі у верасьні с. г. адбыўся агульны сход сяброў, на якім урад зрабіў справаздачу аб працы Т-ва за мінулы год. У склад ураду выбраны: К. Езавітаў, А. Родзька, Г. Нікіфароўская. С. Сіцько і Ф. Клагіш; кандыдаты да іх: Яз. Клагіш, М. Краўчанка і Я. Кастылюк. У рэвізыйную камісію: С. Сахараў, Я. Кудраўцаў, Я. Каяла. Адрас Т-ва: Riga, Elija iela 20, dz. 25.

Галоўная праца Т-ва выявілася ў зьбіраньні беларускіх народных песень — слоў і мэлёдыяў, якіх сабрана за год даволі шмат.

Паміж іншым, гэтым летам гр. Сахаравым запісана 10 песьняў ад прыезных на сэзонныя работы ў Латвію работніц-беларусак з Заходняе Беларусі (з Пастаўскага пав.).

**З жыцьця Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі.** Праца Саюзу ўсьцяж пашыраецца. Арганізацыі на мяйсцох ладзяць спэктаклі, вечарыны, спортовыя конкурсы і паказы. Ад часу да часу пачалі ладзіцца нарады дэлегатаў ад усіх аддзелаў, якія шмат дапамагаюць у наладжаньні працы Т-ва.

**Беларусы ў Латвійскім Унівэрсытэце.** Як інформуе „Беларуская Школа ў Латвіі", сёлета ў Латвійскі унівэрсытэт паступілі два новыя беларусы—матурысты беларускае гімназіі ў Дзьвінску.

Стварылася ініцыятыўная група беларускіх студэнтаў Латвійскага унівэрсытэту

дзеля арганізацыі Аб'яднаньня Беларускага Студэнцтва гэтага унівэрсытэту. Як ініцыятары выступаюць студэнты К. Мяжэцкі, П. Журкоўскі і Віткоўскі.

**Беларускія выданьні.** Выйшаў новы нумар штомесячніка „Беларуская Школа ў Латвіі" за жнівень і верасень (№ 6) з багатым зьместам. Паміж іншым цікаўна адзначыць некалькі новых імёнаў беларускіх поэтаў, зьмяшчаючых у часопісе свае творы.

## У Літве.

**Справа беларускіх школ.** Як ведама, у Літве жыве некалькі тысяч беларусаў, якія маюць свае нацыянальныя арганізацыі і выяўляюць сваю жыцьцёвую здольнасьць. На жаль, літоўскі ўрад адносіцца да беларускага руху ў межах Літоўскае рэспублікі ня надта прыхільна, калі не сказаць — варожа. Становішча ўраду ў адносінах да беларусаў найлепш выяўляецца ў школьным пытаньні: школ сваіх беларусы ў Літве зусім пазбаўлены.

Апошнімі часамі беларускае грамадзянства ў Коўне пачало стараньні аб адкрыцьці тут беларускае пачаткавае школы. Сьледам за ковенцамі заварушыліся і беларусы у м. Еўі (непадалёк ад граніцы з Польшчай) і падалі ў Міністэрства Асьветы просьбу аб адчыненьні ў Еўі беларускае школы, далучыўшы сьпіс 40 вучняў, бацькі якіх хочуць вучыць іх пабеларуску (—дагэтуль яны змушаны хадзіць у літоўскую школу, дзе ім вельмі цяжка вучыцца ў чужой мове). Рыхтуюцца падобныя выступленьні і ў іншых мясцовасьцях, дзе беларусы жывуць вялікшымі групамі.—На-жаль, міністэрства не дае бацьком (ад лета!) ніякага адказу, а тымчасам школьны год ужо пачаўся... У Еўі асабліва варожа выступае проці беларусаў адзін вучыцель літоўскае школы і памоцнік пісара...

Выходзіць, што там, дзе літвіны маюць уладу над беларусамі, літоўска-беларускай дружбе прыходзе канец!

---

# Палітычная хроніка.

**15-леццье незалежнасьці Польскае Рэспублікі.** 11 лістапада ў Польшчы дый па за межамі яе—сярод прыязных дзяржаваў сьвету—урачыста сьвяткаваліся 15-тыя ўгодкі адраджэньня дзяржаўнае незалежнасьці польскага народу. Уся польская, а шмат-дзе і загранічная прэса дала агляд запраўды-ж выдатных пасьпехаў адроджанае дзяржавы, пераважна адзначаючы ў гэтых пасьпехах ролю маршалка Пілсудзкага. У першую чаргу, блізу ў вадзін голас, загранічная прэса прыпісывае яму заслугу стварэньня з Польшчы выдатнае мілітарнае дзяржавы, якая пачала йграць дзеля таго ўплывовую ролю ў „укладзе рэальных сілаў" сучаснае Эўропы.

—·—

**Рэзультаты выбараў і плебісцыту ў Нямеччыне.** Як можна было згары прадбачыць — пры пануючым у Нямеччыне палітычным тэроры — рэзультаты выбараў і плебісцыту (усенароднага галасаваньня) паказалі запраўды „нячуванае даверые ўсяго нямецкага народу да свайго правадыра"—Гітлера.

На ўсю лічбу выбаршчыкаў—44 мільёны 831.071 асоб—на выбарах у „парлямант" галасавала 43.029.285; з іх „адзіны агульнанацыянальны сьпісак" Гітлера сабраў 39.678.548, ці — 92,4% галасоў. Апазыцыя, аднак, пры ўсім нячуваным тэроры, сабрала ўсё ж больш за 3 з трацінай мільёны галасоў. Трэба думаць, што гэта галасы работнікаў—соцыял-дэмакратаў пераважна, а мо' і камуністаў. Ці, аднак, на гэтыя тры з гакам мільёны галасоў дасьць Гітлер хаця адзін мандат у рэйхстагу,—вельмі сумліўна...

Ня менш яркія лічбы даў плебісцыт, якi меў, як ведама, мэту давесьці, што ўся Нямеччына падтрымлівае палітыку Гітлера.

За палітыку Гітлера выказалася 40.605.476, —96,6%; проці—2,105,000 з гакам.

Такім чынам, Гітлер мае зусім развязаныя рукі: запраўды-ж, блізу „ўвесь нямецкі народ — за яго".

**Пасьлявыбарны маніфэст Гітлера.** Зараз-жа пасьля выбараў Гітлер зьвярнуўся да нямецкага народу з маніфэстам, у якім дзякуе яму за „гістарычнае, адзінае ў сваім родзе (!) галасаваньне на карысьць запраўднае любові да міру (!), годнасьці і вечных правоў Нямеччыны да роўнасьці з іншымі народамі"... Адначасна Гітлер зьвярнуўся да сваіх „штурмавікоў" і „штальгэльмаўцаў", якіх слушна лічыць „запраўднымі тварцамі ўсіх гэтых выбарных пасьпехаў", называючы „збаўцамі айчыны"...

**Гітлер аб разбраеньні.** Амэрыканскія газэты паведамілі, што Гітлер выставіў амэрыканскаму паслу ў Бэрліне тыя канкрэтныя варункі, на якіх ён згаджаецца вярнуцца на разбраенчую канфэрэнцыю. Гітлер заявіў, што ён не настаівае цяпер на старой формуле: „разбраеньне за разбраеньне"... Наадварот: хай сабе вялікія дзяржавы захоўваюць сучасны стан сваіх збраеньняў поўнасьцю. Але за гэтую „ўступку" Нямеччына павінна атрымаць ад іх згоду на павялічэньне сваей арміі да лічбы 300.000 і на выраб усялякіх ваенных матэр'ялаў, а ў першую чаргу—ваенных самалётаў лёгкага тыпу. За гэта—у дадатак—Нямеччына згаджаецца на забарону ўжываньня труцячых газаў у часе вайны на фроньце...

Характэрна, што толькі адна Францыя захоўвае пакуль што „палітыку цьвёрдасьці" адносна да Гітлера. Італія, Англія і Амэрыка — наадварот — усьцяж націскаюць на Францыю, каб — „ня дражніла Гітлера", але знайшла з ім якісьці кампраміс... Паміж Рымам, Лёнданам і Бэрлінам у апошні час ідуць усьцяж перагаворы, абмінаючы Парыж, як скардзіцца францускай прэса...

**Хаваюць у глыб краю... Францускай прэ-**

са адзначае характэрную зьяву апошніх дзён у Нямеччыне. Нямецкі ўрад загадаў, каб адна па аднэй фабрыкі ваенных матэрыялаў, якія пабудаваны былі пераважна непадалёк ад аўстрыйскае граніцы, перанесены былі ў глыб Нямеччыны, бо ж—Аўстрыя ўсё больш робіцца „няверней“ нямецкай дзяржаве...

**Новы ўрад у Румыніі.** Румынскі кароль усё больш уваходзіць у смак свае́й каралеўскай улады. У выніку — адзін па адным адыходзяць ад яго дэмакратычныя правадыры народных масаў. Ня так даўно адыйшоў галоўны з іх, Маніу, адмовіўшыся ад ролі каралеўскага папіхача на становішча „парлямантарнага“ прэм'ера. А вось цяпер толькі-што так сама зрокся гэтай ролі і яго больш пакорны таварыш па партыі Вайда-Ваявод. Замест гэтых правадыроў запраўды-ж шырокіх народных партыяў на сцэну ізноў вылазяць павыцяганыя каралём „жывыя нябошчыкі“, як генарал Авэрэску, правадыр партыі сталічных „людоўцаў“, або лідэр ледзь дыхаючых аслаўленых „лібэралаў“ — Дука, якому ўрэшце кароль і даручыў фармаваньне новага ўраду. Ізноў да ўлады пацягнулася ўся фамілія Братіану, слаўных „нятыкальных абшарнікаў“, якія, ня гледзячы на „зямельную рэформу“, уладаюць дагэтуль цэлымі паветамі,—ня горш, як нашыя Радзівіллы...

**Выніні валютнае палітыкі Рузвэльта.** Амэрыканскія газэты аблічылі, што валютная палітыка Рузвэльта, які штучна панізіў цану даляра, ужо каштавала нацыянальнаму капіталу Амэрыкі звыш 11 з паловай мільярдаў даляраў, але карысьць для краёвага земляробства і прамысловасьці ад іх—вельмі сумлі́ўная.

## Паштовая скрынка.

**Супрацоўнікам „Літаратурнага Кутка“.** Перапрашаем, што неабходнасьць зьмясьціць у гэтым нумары сьпешны матэрыял аб выбарах пазбавіў нас магчымасьці зьмясьціць набраны ўжо „Куток“.

**Гр. Ам. Коржыну**—Трашчаны, Стаўпецк. пав. Паштоўка Ваша атрымана. Дзякуем. Паданыя Вамі кандыдаты прадстаўлены дзеля зацьвярджэньня. Статут Т-ва высланы.

**Гр. Бэбку Мік.**—вязьніца ў Беластоку. Замест нябошчыка, які блізу год, як памер, „Звону“, высылаем Вам „Родны Край“. Напішэце, ці атрымліваеце рэгулярна. Належнасьць урэгулюеце, як выйдзеце на волю.

**Гр. Яг. Камінскаму**—Казяны. Ліст Ваш атрымалі. Дагэтуль газэты Вам не высылалі і падпісной платы ад Вас не атрымлівалі. Цяпер высылаем Вам пробныя нумары. Калі газэта ня будзе даходзіць да Вас, тады прышлеце нам заяву, а мы з свайго боку зробім формальную рэклямацыю да паштовых уладаў. Статут Т-ва высылаем. Паведаміце, калі і колькі грошаў выслалі Вы на падпіску і на які адрэс. Трэба высьветліць справу.

**Гр. Тад. Рыбінскаму**—Бібліотэкару Т. Б. А. у в. Адамаўцы. На нашу рэклямацыю мы атрымалі ад начальніка Паштов. Ужэнду ў Вільні адказ, сцьвярджаючы, што паштовая кантора ў Гарадку рэгулярна аддае Вашу газэту солтысу Вашае вёскі. Начальнік віленскай пошты абяцаў зрабіць патрэбныя крокі, каб спыніць гэтую „недакладнасьць“; з свайго боку і наша адміністрацыя давядзе да ведама вышэйшых уладаў аб гэтай „недакладнасьці“ п. солтыса Вашае вёскі.

**Гр. Грышкевічу Аляк.**—в. Верашчакі. Ліст Ваш атрымалі. Статут Т-ва і патрэбныя інфармацыі высылаем лістом.

**М. Машары.** Абедзьве заметкі і вершы атрымалі. Выкарыстаем усё прысланае.

**А. Др.** Ваша заметка ў справе выбараў у самаўрады спазьнілася. Пішэце, як у вас праходзілі выбары і ці былі ўшанаваны правы беларускае мовы.

Атрыманы грошы на надпіску:—ад гр. гр. Беганскага Паўлы.—г. Чапельшчына,—1,20, Пышкі Яна — в. Зачэпічы—1,20, кс. дзекана Спрогіса Яна—Каягінія Віл. п.—2.



**Рыначныя цэны ў Вільні. (17. XI. 1933).**

Жыта 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Авёс гурт. 1 зл. 70 гр. дэт. 2 зл. 00 гр. Пшаніца гурт. 2 зл., 80 гр. дэт. 3 зл. 20 грашей. Бульба пуд. 80 грашей, дэт. 1 зл. 20 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр.—2 зл. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 3 зл. 60 гр. — 4 зл. 00 гр., масла гаспадар. 3 зл. 00 гр.—3 зл 40 гр. Яйкі 8-10—10-14 гр. Даляр 5 зл. 29 гр.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22